**У НУМАРЫ**

- У Кнышэвічах
- Пазнаць саміх сябе
- Конкурс ГП БГКТ
- Трэнер
- Педагог і актывіст
- Jadą wozy kolorowe

# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (769) БЕЛАСТОК 22 ЛІСТАПАДА 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## НАСТАЎНІКІ І БГКТ

На нашых вёсках настаўнікі адыгрываюць велізарную ролю ў грамадскім жыцці. Настаўнікі — гэта таксама надзейная апора Беларускага таварыства. Яны з'яўляюцца ў асноўным ініцыятарамі і арганізатарамі аматарскага руху з беларускім рэпертуарам, яны ў большасці гурткоў БГКТ надаюць тон і кірунак дзейнасці, яны з'яўляюцца асноўным актывам нашых аддзелаў і ўкладаюць там шмат працы. У Гайнаўскім, Бельскім і Сямяціцкім паветах настаўнікі Аляксандр Іванюк, Мікалай Гайдук і Анатоль Мартыновіч з'яўляюцца старшынямі аддзелаў. 15 настаўнікаў з'яўляецца членамі Галоўнага праўлення БГКТ і ўсе яны ўносяць шмат каштоўных думак і прапаноў да дзейнасці таварыства, усе яны паверaныя ім заданні выконваюць на высокім узроўні. Вось за гэта ўсё добрае, за іх самаахвярнасць, ініцыятыўнасць і арганізатарскую працу ў Беларускім таварыстве нашым дарагім настаўнікам Прэзідыум Галоўнага праўлення з нагоды Дня настаўніка выражае шчырую падзяку і найлепшыя пажаданні.



*Стары настаўнік Ян Баярчук вядзе заняткі па нямецкай мове ў беларускім ліцэі ў Бельску.*

*Фота Цаф — Сянько*

**Сустрэчы з „Нівай"**



## У КНЫШЭВІЧАХ

У даволі вялікім класе Кнышэвіцкай школы народу сабралася — сесці няма дзе. Пад вокнамі цесным гуртам паселі маладыя дзяўчаты. Бліжэй печкі, на пярэдніх лаўках — пажылыя мужчыны. Паміж гэтымі дзвюма групамі, як злучаючы масток, сядзелі старэйшыя жанчыны. Маладыя хлопцы стоўпіліся ў праходзе, стоячы, бо вольных крэслаў ужо не было.

Ішла сустрэча з журналістам «Нівы».

А суботні вечар у асеннюю познюю пару — гэта нядрэнная нагода, каб вось так сабе пасядзець, пагаварыць аб усім і аб нічым.

Слухалі з увагай аб працы рэдакцыі, аб праблематыцы, якой займаецца наша газета, аб Беларускім таварыстве, якое рыхтуецца да сваго юбілею — 15-годдзя. Месцамі перапынялі, перапытвалі, прасілі расказаць шырэй. Завязалася спакойная размова, у якой не было дакладчыкаў і дыскутантаў, гаварылі ўсе: нехта пачынаў, іншыя ўстаўлялі свае думкі, канкрэтызавалі.

— Вось вы кажаце — чытаць газеты, развіваць культуру, — загаварыў пажылы мужчына, які сядзеў на пярэдняй лаўцы. — А ў нас клуба ніякага няма. Вёска наша вялікая, больш 100 гаспадароў, а пасядзець вечарам няма дзе.

— Вунь Войнаўка напалову меншая — дык там клуб зрабілі, а ў нас не. Не трэба нам будынка, хату знайшлі б.

Аказваецца, кнышэвіцкія людзі не з тых, што сядзяць кожны сабе ў сваёй хаце. Кожны вольны дзень, кожны вечар людзі хочуць сустракацца, пасядзець, пагаварыць, паглядзець тэлевізар. Адзінае месца — школа. Але ўсе вяскоўцы разумеюць, што школа — гэта не месца, дзе можа збірацца па вечарах цэлая вёска.

— Не, школу не на тое будавалі, каб мы тут штовечар смяцілі, — гаворыць стары чалавек.

— Нельга ўтрымаць чыстай падлогі, — умешваецца гаспадар школы, усімі знаны «возьны», які працуе ў школе ўжо гадоў з 20, а моладзь не памятае, каб калі ў школе быў «возьным» хто іншы. — Калі ж яе чысціць ды мыць, калі кожны вечар мы будзем яе таптаць ды брудзіць? Дзеці ж не могуць вучыцца ў брудным памяшканні.

— А нам у павеце сказалі, — уключаецца ў размову малады хлапец, відаць, прадстаўнік гуртка ЗМВ, — што моладзь можа збірацца ў школе тры разы ў тыдзень. Бо дзе ж мы будзем збірацца, калі няма клуба?

— Ніхто вам не забараняе прыходзіць у школу, — умешваецца кіраўнічка школы. — Але прыходзьце, збірайцеся, каб нешта рабіць цікавае, арганізаванне, усе разам А не так, як вы любіце прыходзіць — толькі пабалаганіць і насмяціць.

Настаўніцу падтрымоўваюць старэйшыя людзі, мужчыны і жанчыны.

Каб стрымаць разгарэўшуюся спрэчку, прапаную моладзі сапраўды падумаць аб больш арганізаваным адпачынку. Кіраўнічка школы прыгадвае, што ў мінулым годзе ўдавалася ўсім

Працяг на стар. 4



*Фота Цаф — Сянько*

## ПАЗНАЦЬ САМІХ СЯБЕ

Пачаўся II культурны фестываль прафесіянальных саюзаў. Будзе ён працягвацца ўвесь 1971 год.

Размову нашу на гэтую тэму вядзем з сакратаром Ваяводскай камісіі прафсаюзаў у Беластоку Браніславам Ігнасякам.

БРАНІСЛАЎ ІГНАСЯК: II культурны фестываль прафсаюзаў з'яўляецца вялікім грамадскім рухам, які ідзе непасрэдна на фабрыкі, сярод рабочых. Галоўнае яго заданне — разбудзіць ініцыятыву, прыцягнуць як мага больш людзей да грамадскай дзейнасці.

В. Л.: Калі захочам параўнаць I і II фестывалі?

Б. І.: То скажам, што асабліва ва ўсходніх раёнах былі ў I фестывалі недахопы. Не выйшла тут рэгіянальная праблематыка. Сам, зрэшты, I фестываль не меў ва ўсходніх паветах шырэйшага водгуку. Але цяпер на гэтыя куткі мы звяртаем асаблівую ўвагу.

В. Л.: Як гэта выглядае на практыцы?

Б. І.: Мы першы ўдар канцэнтруем на Гайнаўку. Гайнаўскія прадпрыемствы і дамы культуры маюць добрыя ўмовы для таго, каб у рамах фестывалю нарадзіліся ў іх трывалыя дасягненні, як я бачу, напрыклад, калектыў песні і танца. Зразуменне ў Гайнаўцы для такой ідэі ёсць.

В. Л.: Ад зразумення да рэалізацыі дарога далёкая?

Б. І.: Я звязваю гэтую справу з II фестывалем. Найважнейшае тут, каб разбудзіць зацікаўленне і працоўных, і дзеячоў культуры ў Гайнаўцы. Каб усе яны накіравалі свае сілы на выкананне задумы. Будучы гайнаўскі калектыў песні і танца бачу як калектыў фальклорны, падляшскі. Беласточчына не мае аніводнага такога калектыву, забываецца рэгіянальная багатая народная культура. Колькі, для прыкладу, у Жэшоўскім працуе розных народных капел, а ў нас адна, што ў Лысых у Кольненскім павеце.

В. Л.: Гайнаўскі раён, на вашу думку, падыходзіць для сапраўднага фальклорнага калектыву?

Б. І.: Па-мойму, вельмі падыходзіць. Гэта ж багаты і разнародны, тыповы падляшскі раён. Сфарміраваўся гістарычна на сутыку розных культур і розных уплываў. Гэтую разнароднасць у звычаях, абрадах, мове і павінен будучы калектыў паказваць.

В. Л.: Верыце вы, што такі калек-

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

■ 4-га лістапада адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ з удзелам сакратара ВК ПАРП у Беластоку таварыша Вітальда Мікульскага. Супольна з праўленнем навуковага гуртка члены прэзідыума ГП абмяркоўвалі далейшыя напрамкі працы навуковага гуртка.

На гэтым пасяджэнні прэзідыум ГП з нагоды Дня настаўніка прызнаў грашовыя ўзнагароды наступным настаўнікам: Анатолю Мартыновічу з Вілінава, Кастусю Пытлюку з Клюковіч, Міколе Врублеўскаму з Зубава, Аляксею Максімюку з Паўлаў, Веры Краўчук з Кленік, Олі Гарустовіч з Дубін, Марысі Чыквін з Койлаў, Аляксандру Харкевічу з Ляшукоў, Дануце Салавей з Шымак, Ользе Паўлючук з Саколкі і Чэславу Ацэвічу з Вострава ў Дуброўскім павеце.

■ У гэты ж самы дзень 4-га лістапада адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта святкавання 15-ай гадавіны БГКТ, на якім быў зацверджаны ў дэталях план адзначэння юбілею і паасобным членам былі прыдзелены заданні.

■ 1-га лістапада ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку адбыўся вечар, прысвечаны творчасці Якуба Коласа.

■ У Рагачах у Сямяціцкім павеце 1-га лістапада з нагоды 53-яй гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі адбылася акадэмія. З дакладам чыступіў Андрэй Манцюк. Затым быў высветлены савецкі фільм «На шляху да Берліна».

■ Бельскі аддзел БГКТ 1-га лістапада ў Дубяжыне арганізаваў вечарыну, прысвечаную 53-яй гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

■ З нагоды гадавіны Вялікага Кастрычніка варшаўскі аддзел падрыхтаваў фотагазетку, выкарыстоўваючы фота, атрыманыя ў Доме савецкай культуры. 8-га лістапада ў памяшканні аддзела адбылася вечарына. З дакладам выступіў член праўлення Віктар Швед. Пасля адбылася аўтарская сустрэча, на якой чыталі свае вершы Віктар Швед і Янка Чыквін.

■ Працаўнікі Галоўнага праўлення і некаторыя актывісты 7-га лістапада паехалі ў Варшаву і пабывалі там на вядомым у Польшчы падвячорку пры мікрафоне, а назаўтра пад кіраўніцтвам экскурсавода наведалі цікавейшыя месцы сталіцы. (мх)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### РУМЫНА-ПОЛЬСКІЯ ПЕРАГАВОРЫ

У Бухарэсце адбыліся румына-польскія перагаворы, у выніку якіх быў падпісаны новы Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе абедзвюх краін.

З румынскага боку ў перагаворах удзельнічалі Генеральны сакратар РКП, Старшыня Дзяржаўнага савета СРР Н. Чаушэску і іншыя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы краіны, з польскага — партыйна-ўрадавая дэлегацыя на чале з Першым сакратаром ЦК ПАРП У. Гамулкам і членам Палітбюро ЦК ПАРП, Старшынёй Савета Міністраў Ю. Цыранкевічам.

### ГЕНЕРАЛ ШАРЛЬ ДЭ ГОЛЬ

У цэлым свеце выклікала глыбокі жаль смерць генерала дэ Голя. Аб ушанаванні гэтага выдатнага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча Францыі сведчыць факт, што ў Францыю, на жалобныя ўрачыстасці прыбыло 26 шэфаў дзяржаў і кіраўнікі дзесяткаў урадаў.

Генерал дэ Голь нарадзіўся 22 лістапада 1890 года. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю ў каледжы, дэ Голь паступіў у ваеннае вучылішча Сен-Сер, а пазней скончыў ваенную школу ў Парыжы. У час першай сусветнай вайны ўдзельнічаў у абароне Вердэна, некалькі разоў быў паранен.

У 1940 годзе ў крытычныя для Францыі дні дэ Голь становіцца наменнікам міністра нацыянальнай абароны. У чэрвені гэтага ж года заклікае ўсіх французаў працягваць барацьбу супраць гітлераўскага фашызму. Рэжым Вішы пазбавіў дэ Голя французскага грамадзянства і завочна прыгаварыў яго да пакарання смерцю.

Будучы адным з лідэраў антыгітлераўскай кааліцыі, дэ Голь шмат зрабіў для адраджэння Францыі як буйнай еўрапейскай і сусветнай дзяржавы, якая адыгрывае ў якасці пастаяннага члена Савета Бяспекі ААН і ўдзельніцы пасляваенных міжсаюзных пагадненняў важную ролю ў міжнародных справах.

Узначальваючы ў перыяд з 1958 па 1969 год спачатку французскі ўрад, а потым французскую дзяржаву, генерал дэ Голь праводзіў лінію на ўмацаванне незалежнай ролі Францыі. Яго знаходжанне на пасадзе прэзідэнта Францыі было адзначана, асабліва пасля 1964 г., развіццём польска- і савецка-французскіх адносін, павышэннем актыўнасці Францыі ў справе мірнага ўрэгулявання вострых міжнародных праблем.

### БОЛЬШ 9-ЦІ МІЛЬЁНАЎ

У 1962 годзе ў Японіі налічвалася 3 мільёны аўтамабіляў (без матацыклаў). Ужо ў 1968 годзе іх колькасць павялічылася і складала 9 мільёнаў штук. Зараз гэты лік адпаведна большы.

Для параўнання падаем, што ў Польшчы зараз налічваецца зарэгістраваных грузавікоў і легкавых аўтамабіляў каля 700 тысяч. У 1975 годзе будзем мець 1 мільён легкавых аўтамабіляў, а ў 1985 іх лік павялічыцца да 3,3 мільёна штук. (ак)



## БССР

### ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР, дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага — ПАДКАВЫРАЎ Пётр Пятровіч узнагароджан Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

### ПРА НАРОДНЫЯ ПЕСНІ

Выдавецтва БДУ імя Леніна ў Мінску надрукавала кніжку Н. Гілевіча *«З клопатам пра песні»*. Яна расказвае пра збіральніцкую і навуковую дзейнасць пачынальнікаў беларускай фалькларыстыкі: Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Яўстахія Тышкевіча, Рамуальда Зенькевіча, Аляксандра Рыпінскага, Паўла Шпілеўскага.

Даследаванне Н. Гілевіча — добры дапаможнік для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускай культуры, даследуе і збірае каштоўны скарб народа — яго вусна- паэтычную творчасць.

### 27 ЦЭНТНЕРАЎ

Добры ўраджай збожжавых вырасцілі сёлета хлебаробы калгаса імя Мічурына, Стаўбцоўскага раёна. У сярэднім з гектара сабрана па 27 цэнтнераў зерня. Ураджай старанна ўбран. Своечасова праведзена ў калгасе сяўба азімых, уборка бульбы, 23 трактарысты і камбайнеры атрымалі грашовыя прэміі і каштоўныя падарункі.

### КВАТЭРЫ КАЛГАСНІКАМ

Дзяржаўная камісія падпісала акт аб прыёме ў эксплуатацыю 6-ці шматкватэрных жылых дамоў у калгасе «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. Гаспадарка атрымала 36 кватэр з усімі выгодамі. Амаль усе кватэры 3—4-пакаёвыя. Пабудаваны добрыя гароднінасховішчы, а для ўтрымання жывёлы — цагляныя хлявы. У гэтай пяцігодцы на ажыццяўленне генеральнага плана забудовы цэнтральнай сядзібы калгаса — вёскі Расна — выкарыстан мільён рублёў.

### НОВЫ ФІЛЬМ

На кінастудыі «Беларусьфільм» заканчваецца работа над тэлевізійным фільмам *«Дзень ды ноч»*. Расказвае ён аб сучаснай моладзі, аб сустрэчы двух пакаленняў, людзях, якія прайшлі вайну, і юнаках і дзяўчатах, што ўступаюць у жыццё.

### НОВАЯ П'ЕСА

Камедыя М. Матукоўскага «Амністыя» атрымала другую прэмію на рэспубліканскім конкурсе, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Расказвае яна аб прынцыповасці і беспрынцыповасці, аб тым, якую вялікую шкоду чалавеку, калектыву і грамадству могуць нанесці кампраміс, уступка, няправільнае разуменне паняцця «гонар мундзіра». Па п'есе М. Матукоўскага Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы рыхтуе спектакль, прэм'ера якога адбудзецца ў бліжэйшыя дні. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ЗАМЕЖНЫ ГАНДАЛЬ

9 лістапада ў Цэнтральным Камітэце партыі адбылася пад кіраўніцтвам сакратара ЦК партыі Баляслава Яшчука нарада партыйна-гаспадарчага актыву, прысвечаная зменам у эканамічнай і арганізацыйнай сістэме замежнага гандлю. Падчас нарады з дакладам выступіў намеснік прэм'ера Мечыслаў Ягельскі. Напомніў ён, што V З'езд партыі прыняў пастановы ў справе змен у стратэгіі нашага гаспадарчага развіцця. Выкананне генеральных пастаноў з'езда патрабуе аднак шэрагу канкрэтных крокаў у паасобных галінах нашай гаспадаркі. Гэтыя крокі маюць комплексны характар — павінны адначасова ахопліваць сферу планавання і кіравання, навукі і тэхнікі, капіталаўкладанняў і г.д. Глыбокая рэформа сістэмы планавання і кіравання нацыянальнай гаспадаркай патрабуе адпаведных змен у эканамічнай і арганізацыйнай сістэме замежнага гандлю. У далейшай частцы свайго выступлення тав. Мечыслаў Ягельскі падрабязна паінфармаваў аб характары змен у замежным гандлю, а таксама ў сістэме арганізацыі працы прамысловасці, якая працуе на патрэбы гэтага гандлю.

Падчас нарады выступіў таксама сакратар ЦК партыі Баляслаў Яшчук. Падкрэсліў ён, што палітыка інтэнсіўнага развіцця ў нашых умовах неразрыўна звязана з развіццём гандлёвых абаротаў з замежнымі краінамі. Пры новай стратэгіі гаспадарчага развіцця наш замежны гандаль не можа быць пасіўным вынікам існуючай структуры нашай прамысловасці, яе тэхналагічнага ўзроўню і арганізацыі прадукцыі, але — наадварот: замежны гандаль павінен быць стымулам больш аналітычнай і крытычнай ацэнкі ўзроўню эфектыўнасці нашай вытворчасці.

### ПОЛЬШЧА — ФРГ

14 лістапада закончыліся ў Варшаве перагаворы паміж Польшчай і Федэратыўнай Рэспублікай Германіі ў справе нармалізацыі суадносін паміж абедзвюма краінамі. Размовы закончыліся ўзгадненнем тэксту дагавору аб падставах нармалізацыі суадносін паміж Польшчай і ФРГ. Як вядома, да размоў паміж Польшчай і ФРГ дайшло дзякуючы прапанове, высунутай Першым сакратаром ЦК партыі Уладзіславам Гамулкам 17 мая 1969 года.

### КАМУНІКАЦЫЯ

У міністэрстве камунікацыі адбылася нарада, прысвечаная падрыхтоўцы нашых сродкаў транспарту да працы ў зімовы перыяд. У нарадзе прыняў удзел намеснік прэм'ера Пётр Ярашэвіч. Вынікі нарады паказалі, што ў гэтым годзе зроблены значны крок наперад у тэхнічнай і арганізацыйнай падрыхтоўцы транспарту да працы ва ўмовах зімы. Апрацавана праграма комплекснага забеспячэння транспарту сучаснай тэхнікай для барацьбы з зімою і прыняты пастановы аб прадукцыі новых адпаведных машын і ўстройстваў, а таксама закупкі адпаведных спецыялістычных машын за мяжою. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ГОСЦІ З ГРОДНА

У мінулым тыдні на Беласточчыне прабывала партыйна-савецкая дэлегацыя з Гродна на чале з II сакратаром Абласнога камітэта партыі Г. Фамічовым.

Дэлегацыя знаёмілася з дасягненнямі і развіццём нашага горада і ваяводства, абменьвалася вопытам у партыйным кіраўніцтве і кіраўніцтве радамі нарадовымі, знаёмілася з формамі і метадамі выконвання партыйных і ўрадавых пастаноў, працай з кадрамі, цікавілася працай спулдзельняў жыллёвага будаўніцтва і дзейнасцю самаўпраўленняў.

На Беласточчыне госці сустрэліся з прадстаўнікамі партыйных і грамадскіх улад нашага горада, наведалі Фастаўскі камбінат, а таксама знаёміліся з працай грамадска-партыйных улад у павеце на прыкладзе Граева і Монек.

### ПРАДСТАЎНІКІ ПАСОЛЬСТВА

У сувязі з 53 гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі па запрашэнню грамадства ў нашым ваяводстве прабывалі прадстаўнікі савецкага пасольства ў Польшчы. Тав. В. Пагудзін наведаў Сэйны, дзе сустрэўся з моладдзю ліцэя і прафесіянальнай школы. Моладзь падрыхтавала на сустрэчу мастацкую частку пад назвай «Рускія і савецкія пісьменнікі аб Польшчы і паляках».

Тав. Д. Халіулін правёў сустрэчы ў Высокамазавецкім, Лапскім і ў Сувальскім паветах. На заканчэнне прабывання на Беласточчыне госці сустрэліся з кіраўніцтвам ВРН, і Д. Халіулін уручыў старшыні Прэзідыума ВРН С. Жмійку медаль Леніна, прызнаны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР.

### РЫХТУЮЦЦА ДА ЗІМЫ

Беластоцкія дарожнікі старанна рыхтуюцца да змагання са снегам. Мінулая зіма паказала, як шмат недахопаў у нас яшчэ ў галіне ўтрымання пастаяннага руху на дарогах.

Дарожнікі звяртаюцца з просьбай да розных устаноў і прадпрыемстваў, каб дапамагалі і гэтай зімой машынамі, а да насельніцтва — каб уключыліся ў ачышчэнне ад снегу сваёй ваколіцы. Не павінны паўтарыцца ганебныя прыклады мінулага года, калі ніводзін жыхар Васількова і Супрасля не рушыў лапатай, і трэба было змусіць гарадскія ўлады, каб патрабавалі выконвання сваіх абавязкаў па ачышчэнню снегу ад гаспадароў сядзіб.

### І МЕСЦА Ў ПОЛЬШЧЫ

Беластоцкія геадэзісты занялі І месца ў агульнапольскім конкурсе на якасць геадэзійных работ у галіне гарадской геадэзіі. У першай групе конкурсных работ І месца здабыла праца «Геадэзійная абслуга будовы электрацяплоўні Беласток II», зробленая Ваяводскім геадэзійным прадпрыемствам камунальнай гаспадаркі. Яшчэ адно першае месца — у III групе атрымала праца з аб'екту будаўніцтва вадачнай фабрыкі, прадстаўленая тройкай геадэзістаў з Гарадской геадэзійнай працоўні ў Беластоку. (яч)





**Niedziela 22.XI.**

8.15 Program dnia. 8.20 TV Kurs Rolniczy: „Wychów i opas cieląt”. 8.55 „Przypominamy, radzimy”. 9.05 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Wielka podróż”. 9.35 Dla młodych widzów: „Młodzi muzykanci” (Brno). 10.00 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I Ligi: Zagłębie (Sosnowiec) — Legia (Warszawa). W przerwie ok. 10.45 „Mundur i piosenka” — rep. film. 11.50 „W starym kinie” — Festiwal Starych Filmów. 12.50 Dziennik. 13.05 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Żart” („Przygody Skrzata Dzięcielinka”). 13.35 „Przemiany”. 14.05 „Aktor” — film dok. ang. 14.55 G. Verdi — „Atilla” — opera w wyk. Zespołu Opery Poznańskiej. 15.55 „Zaginiona stolica” („Klub Sześciu Kontynentów”). 16.35 „William Szekspir — Człowiek roku” — film tv ang. („Portrety”). 17.05 „Wielka gra”. 18.05 PKF. 18.15 Estrada Poetycka: „Nietrwała i trwożna” — poezja M. Jasnorzewskiej-Pawlikowskiej. 18.45 „Na skraju wsi” — film węg. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Szalenie smutna księżniczka” — film fab. czechosł. 21.30 I część Koncertu z okazji XXV-lecia ONZ. 22.00 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 23.XI.**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 „Sylwetki X Muzy” — Ewa Krzyżewska. 18.25 „Eureka”. 18.55 „Płonące maki” — film irański. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Wesker — „Frytki do wszystkich dań”. 21.25 „Praskie spacery”. 22.05 „Kino Filmów Animowanych”. 22.35 Dziennik.

**Wtorek 24.XI.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — W. Szekspir „Hamlet”. 9.40 Przerwa. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Tu był Lenin”. 10.20 „Rzeka posępna” — film fab. radz. cz. III. 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Prawidłowy wychów prosiąt”. 14.25 Przerwa. 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.20 „Ranga ekonomisty”. 18.50 „U sąsiadów z południa”, „Na Orawie” — rep. film. Tele-Aru. 19.10 „Żołnierz i polityk”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Rzeka posępna” — film fab. radz. cz. III. 21.10 „Panorama Literacka”. 21.40 „Balet” — film TVP. 22.10 Dziennik.

**Środa 25.XI.**

10.00 „W mroku” — film tv ang. („Saga rodu Forsytów”). 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Czarne bogactwo”. 12.25 Przerwa. 12.45 „Wybieramy zawód”. 13.15 Przerwa. 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Aula”. 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Kino Filmów Amatorskich”. 18.00 „Co nowego”. 18.30 PKF. 18.40 „Basetla z kory” — film. 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „W mroku” — film tv ang. („Saga rodu Forsytów”). 20.55 „Światowid”. 21.25 „12 tonów i jedna aria” („Słuchamy i patrzymy”). 22.25 Dziennik.

**Czwartek 26.XI.**

8.15 Matematyka w szkole: „Izometrie w przestrzeni trójwymiarowej” cz. II. 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Reymont”. 9.30 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Kto miłuje księgi”. 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Sposoby zwiększania siły uciągów ciągników” cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.45 „Nasze zdrowie”. 18.15 „Ballady szczecińskiego Zamku” — program estradowy. 18.55 „Przypominamy, radzimy”. 19.00 TV Kurier Lubelski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Heroina” — film fab. NRD. 21.30 „Sporu rok trzynasty” — rep. film. 22.10 „Rozmowy o książkach”. 22.25 Dziennik.

**Piątek 27.XI.**

10.00 „Jak być powinno” — film tv franc. („Szczęście małżeńskie”). 10.25 „Heroina” — film fab. NRD. 11.45 Przerwa. 15.20 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora”. 17.40 „Nie tylko dla pań”. 18.05 „Za kierownicą”. 18.35 „Grają orkiestry dęte”. 19.00 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Jak być powinno” — film tv franc. („Szczęście małżeńskie”). 20.30 „Kraj”. 21.10 Teatr TV: St. I. Witkiewicz — „Sonata Belzebuba”. 22.35 Dziennik.

**Sobota 28.XI.**

10.00 „Za cenę życia” — film fab. USA. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — Gospodarka wodna”. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Nowy York”. 13.15 Przerwa. 13.55 Program dnia. 14.00 TV Kurs Rolniczy: „Intensywna produkcja młodego bydła rzeźnego”. 14.35 „Informacja dla służby rolnej”. 14.45 Międzynarodowe Zawody w Gimnastyce Artystycznej o Puchar Interwizji (Moskwa). 16.00 Program tygodnia. 16.20 „Oferty”. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów”. 17.45 „Wydawnictwa proponują...”. 18.00 „Wielcy znani i nieznani” — (Jadwiga Dziubińska) — „Serce nienasycone”. 18.35 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Kabaret Olgi Lipińskiej”. 21.20 Dziennik. 21.40 „Za cenę życia” — film fab. USA. 23.00 „Przeboje z Moskwy” — film. rozrywkowy.





**PIĄTEK, 20 LISTOPADA**

8.05 Nowiny. 8.15 Hokej. CSKA — „Dynamo” (Moskwa). 8.50 Karuzela. 9.35 W świecie zwierząt. 10.35 Szewczenko — malarz. 11.05 Nowiny. 14.50 Program dnia. 14.55 Nowiny 15.05 Dla młodzieży. 15.35 Zdrowie. 16.05 Przyszłość Polesia. 16.35 Koncert. 16.45 Kroki pięciolatki. 17.00 Koszykówka. „Dynamo” (Moskwa) — CSKA. 18.30 Czas. 19.00 Bajka dla dorosłych. 20.05 Halo, szukamy talentów! 21.35 Nowiny.

**SOBOTA, 21 LISTOPADA**

8.00 Program dnia. 8.05 Gimnastyka. 8.30 Nowiny. 8.45 Przyjdź, bajko. 9.15 Koncert życzeń. 10.00 Przegląd międzynarodowy. 10.15 Szkatułka muzyczna. 10.35 Szlakiem ojców. 11.05 Człowiek i prawo. 11.20 Nowa opera białoruska. 12.00 W eterze „Młodość”. 12.30 Biuletyn inspektora ruchu. 13.00 Uniwersytet ludowy. 14.30 Film fab. dla dzieci. 16.00 Nowiny. 16.05 W eterze „Młodość”. 17.30 M. Gorki. „Jegor Bułyczow i inni”. Spektakl teatralny. 18.25 Czas. 18.55 Dalszy ciąg „Jegora Bułyczowa”. 20.45 Program muzyczny. 21.45 Nowiny.

**NIEDZIELA, 22 LISTOPADA**

8.00 Białe i czarne. 8.25 Dla uczniów. 9.00 Inżynierowie podniebnego oceanu. 9.30 Koncert. 10.20 Film fab. 11.00 Koncert symfoniczny. 12.00 Spotkania z Muzeum Rosyjskim. 12.30 Film fab. dla dzieci. 13.45 Film dokument. 14.00 Dla żołnierzy. 14.15 Kiosk muzyczny. 14.45 Reportaż o sekretarzu fabrycznej organizacji partyjnej. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.05 Dla wsi. 16.30 Od zjazdu do zjazdu. 17.00 Film fab. 18.35 Czas. 19.00 Artysta Ludowy BSFSR Kapelan. 20.15 Koszykówka. „Kalew” (Tartu) — „Spartak” (Leningrad).

# КОНКУРС

## НА НАЙЛЕПШЫ АМАТАРСКІ КАЛЕКТЫЎ

### ПРАВІЛЫ КОНКУРСУ

Конкурс арганізуецца з нагоды 15-цігоддзя БГКТ і «Нівы».

І. Арганізатары: ГП БГКТ і рэдакцыя «Нівы», суарганізатары ЗМВ, ВЗГС, аддзел культуры, ПУПіК «Рух», клубы, пажарная ахова, сельскагаспадарчыя гурткі, ВКЗЗ.

У сувязі з арганізацыяй конкурсу неабходна звязацца з вышэй пададзенымі ўстановамі і стварыць арганізацыйныя камітэты.

II. Конкурс складаецца з двух ступеняў:

а) элімінацыі ў аддзелах;

б) цэнтральныя элімінацыі.

III. Мэтай конкурсу з'яўляецца:

папулярызацыя дасягненняў у галіне тэатральнага мастацтва на беларускай мове;

падрыхтоўка шырокіх кол грамадскасці да ўспрыняцця тэатральнага мастацтва;

фарміраванне правільнага і выразнага выказвання на беларускай мове.

IV. У конкурсе прымаюць удзел артысты — аматары.

V. Узрост удзельнікаў — ад 16 гадоў і больш.

VI. Кожны калектыў абавязаны падрыхтаваць тэатральную пастаноўку на беларускай мове.

VII. Элімінацыі ў аддзелах неабходна правесці ў месяцы сакавіку. Прозвішчы пераможцаў элімінацый у аддзелах (I месца) неабходна падаць у ГП БГКТ да канца сакавіка.

Цэнтральныя элімінацыі адбудуцца ў месяцы красавіку.

VIII. Для ацэнкі элімінацый арганізацыйныя камітэты паасобных узроўняў назначаюць журы з 3—7 асоб.

IX. Журы ацэньвае ўдзельнікаў паводле наступных крытэрыяў:

— дыкцыя 1—10 пунктаў
— падборка рэпертуару 1—10 пунктаў
— дэкарацыя 1—10 пунктаў
— інтэрпрэтацыя 1—10 пунктаў

X. Журы прызнае для найлепшых калектываў элімінацый у аддзелах узнагароды арганізатараў і суарганізатараў.

XI. Кошты падарожжа на элімінацыі ў аддзелах і цэнтральныя элімінацыі пакрываюць арганізатары і суарганізатары адпаведных элімінацый.



*Паўлы — перадавы драмгурток БГКТ. Сцэна з п'есы «Аповесць аб загінуўшым салдаце». Злева направа: Ніна Букач у ролі дачкі, Юрка Пашкоўскі ў ролі дзядулі і Аркадзь Мароз у ролі немца.*

*Фота Цаф — Сянько*



# ТРЭНЕР

Мікалай Врублеўскі — выпускнік Акадэміі фізкультуры — пачаў працаваць у агульнаадукацыйным ліцэі №10 з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы ў 1963 годзе. Малады настаўнік у наступным навучальным годзе засноўвае валейбольную секцыю.

Ужо ў 1966 годзе яго юныя спартсменкі заваёўваюць Кубак куратара і першынства ваяводства, перамагаючы неператожных дагэтуль валейбалістак педагагічнага ліцэя ў Лапах; яны ўдзельнічаюць у адборачных гульнях за ўваход у паўфінал першынства Польшчы. Мэту дасягаюць, уваходзяць ў паўфінал і працягваюць барацьбу за фінальныя сустрэчы. Не ўдалося, адпалі ў роўнай спартыўнай барацьбе. Але і так слава пра гайнаўскіх дзяўчат з беларускага ліцэя пайшла далёка.

У наступным годзе юныя валейбалісткі (младзічкі) утрымліваюць заваяванае першае месца ў ваяводстве: як у рамах школьнага спартыўнага саюза, так і клубнага першынства.

У 1967 годзе таксама і юньёркі беларускага ліцэя ў Гайнаўцы здабываюць першынства ваяводства ў сваёй катэгорыі і ў 1969 годзе прадстаўляюць нашае ваяводства ў клубным першынстве Польшчы ў Варшаве. Малады, нявопытны калектыў выбывае з далейшых гульняў у паўфінале. У гэтым самым годзе гайнаўскія юньёркі ўдзельнічаюць у гульнях Міжваяводскай лігі. Сярод дваццаці дружын, прадстаўнікоў Варшаўскага, Ольштынскага і Беластоцкага ваяводстваў, займаюць ганаровае шостае месца, а дзесяць спартсменак секцыі атрымлівае II дзяржаўны клас.

Пераможнае шэсце маладых гайнаўскіх валейбалістак не спыняецца і ў 1970 годзе. Зноў яны становяцца чэмпіёнкамі сярод наймалодшых і віцэ-чэмпіёнкамі сярод юніёрак. 22 верасня 1970 года дзяўчаты з беларускага ліцэя ў Гайнаўцы прадстаўляюць маладзёжную зборную нашага ваяводства ў сустрэчы з Гроднам.

— Наша школьная дружына, — гаворыць мгр Мікалай Врублеўскі, — з'яўляецца цяпер самым моцным і непераможным школьным калектывам у ваяводстве. Будзе ён гуляць у міжваяводскай лізе. Аднак мая мара — давесці дружыну да ліку найлепшых у краіне. Мае валейбалісткі дабіваюцца таксама добрых вынікаў і ў вучобе. Найлепшыя нашы валейбалісткі, закончыўшы сярэднюю школу, вучацца ў вышэйшых навучальных установах: Тамара Шыманская — у Акадэміі фізкультуры ў Варшаве, Ліля Лясота — у Варшаўскім універсітэце.

Шматлікія выхаванкі і выхаванцы Мікалая Врублеўскага закончылі ўжо вышэйшыя фізкультурныя ўстановы і цяпер супрацоўнічаюць са сваім былым настаўнікам. Да іх можна аднесці Веру Аляксеюк, якая арганізавала ў Чарэмсе валейбольную школку.

Магчыма, недалёкі час, калі і іх праца дасць не меншы плён.

Усім ім, актыўным прапагандыстам спорту на Гайнаўшчыне, з нагоды Дня настаўніка шлем сардэчныя пажаданні далейшых поспехаў і шчасця ў асабістым жыцці.

*Віктар Бура*
*інструктар ГП БГКТ на Гайнаўскі аддзел*



*Маладзёжная зборная беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Першы злева — старшыня Павятовага камітэта фізкультуры і турыстыкі Станіслаў Казберук. У сярэдзіне трэнер — мгр М. Врублеўскі. Фота аўтара.*

АСВЕТА ЗА МЯЖОЙ

## АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫЯ ШКОЛЫ Ў СССР

У пачатку гэтага навучальнага года ў Савецкім Саюзе быў апублікаваны Статут сярэдняй агульнаадукацыйнай школы, адобраны пастановай Савета Міністраў СССР ад 8 верасня 1970 года. Статут рэгулюе ўсе справы, звязаныя з агульнаадукацыйнымі школамі. Сёння мы хочам каратка паведаміць нашым чытачам аб некаторых справах, змешчаных у статуце.

У Статуце сцвярджаецца, што ў агульнаадукацыйнай школе вучацца ўсе дзеці, якія дасягнулі школьнага ўзросту. Вучням прадастаўляецца магчымасць вучыцца на роднай мове. Бацькі або асобы, якія іх замяняюць, маюць права выбіраць для дзяцей па жаданню школу з адпаведнай мовай навучання. Акрамя мовы, на якой вядзецца выкладанне, вучні па жаданню могуць вывучаць мову іншага народа СССР. Вучні абодвух полаў навучаюцца сумесна.

У залежнасці ад мясцовых умоў ствараюцца асобна пачатковыя школы ў саставе I—III (IV) класаў, васьмігадовыя школы ў саставе I—VIII класаў і сярэднія школы ў саставе I—X (XI) класаў пры захаванні адзінства і пераемнасці ўсіх ступеняў агульнай сярэдняй адукацыі. Тэрмін навучання ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе — 10 гадоў (з I па X клас). Аднак для школ, дзе выкладанне вядзецца не на рускай мове, з дазволу Савета Міністраў СССР можа ўстанаўлівацца адзінаццацігадовы тэрмін навучання.

Што датычыць асноў арганізацыі вучэбна-выхаваўчай работы, статут гаворыць, што максімальная колькасць абавязковых вучэбных гадзін у тыдзень павінна быць: для I—IV класаў — 24 гадзіны, для V—VIII класаў — 30 гадзін і для IX—X (XI) — 32 гадзіны. У нацыянальных школах РСФСР і саюзных рэспубліках дапускаецца павелічэнне вучэбнай нагрузкі да дзвюх—трох гадзін у тыдзень у кожным класе. Што датычыць дамашніх заданняў, дык даюць іх вучням з улікам магчымасці выканання ў межах: у I класе — да 1 гадзіны, у II класе — да 1,5 гадзіны, у III і IV класах — да 2 гадзін, у V—VI класах — да 2,5 гадзіны, у VII класе да 3 гадзін і ў VIII—X (XI) класах да 4 гадзін.

Навучальны год у школах пачынаецца 1 верасня і заканчваецца, ўключаючы правядзенне экзаменаў і практыкі, у I—VII класах — 30 мая, у VIII класе — 10 чэрвеня, у IX—X (XI) класах 25 чэрвеня. Паводле рашэння Міністэрства асветы саюзнай рэспублікі ў школах з дзесяцігадовым тэрмінам навучання, дзе выкладанне вядзецца не на рускай мове, навучальны год можа быць прадоўжаны, але не больш, чым на тыдзень.

Для вучняў устанаўліваюцца канікулы: асеннія — з 5 па 9 лістапада, зімовыя — з 30 снежня па 10 студзеня, вясеннія — з 24 па 31 сакавіка, летнія — з дня заканчэння навучальнага года па 31 жніўня. У сельскіх школах вясеннія канікулы ў залежнасці ад мясцовых умоў паводле рашэння выканаўчых камітэтаў раёнаў могуць быць перанесены на іншы тэрмін.

У статуце гаворыцца, што веды вучняў ацэньваюцца баламі: 5 (выдатна), 4 (добра), 3 (пасрэдна), 2 (дрэнна) і 1 (вельмі дрэнна). Па асобных дысцыплінах, як спеў, фізкультура, паспяховасць вучняў, дапускаецца ацэньваць «залічана» або «не залічана». Характэрным з'яўляецца і той факт, што вызваленне вучняў ад урокаў для выканання грамадскіх даручэнняў, удзелу ў спартыўных і іншых мерапрыемствах не дапускаецца. Што датычыць паводзін, дык ацэньваюцца яны настаўнікамі I—III (IV) класаў і класнымі кіраўнікамі (выхаваўцамі у нас) IV—X (XI) класаў: «прыкладныя», «здавальняючыя» і «нездавальняючыя». Гадавыя нездавальняючыя ацэнкі па паводзінах вучняў выстаўляюцца толькі пасля рашэння педагагічнага савета школы.

У выпадку сістэматычнага непадпарадкавання настаўнікам і грубага парушэння дысцыпліны да вучняў можа быць ужыта, як крайняя мера пакарання — выключэнне са школы. Рашэнне аб выключэнні прымаецца педагагічным саветам паводле ўзгаднення з раённай камісіяй па справах непаўналетніх, якая потым вырашае пытанне аб накіраванні выключанага ў іншыя вучэбна-выхаваўчыя ўстановы ці аб працаўладкаванні яго.

Вучні, якія правучыліся ў адным і тым жа класе два гады і не пераведзены ў наступны клас, рашэннем педагагічнага савета па ўзгадненню з раённым аддзелам асветы могуць быць адлічаны са школы. Пытанне аб іх уладкаванні ў іншыя навучальныя ўстановы або працаўладкаванні вырашаецца раённай камісіяй па справах непаўналетніх.

А. К.

### СПУЛДЗЕЛЬЧЫ ГОРАД

Маёмасць Беластоцкай кватэрнай спулдзельні — БСМ — складае ўжо суму ў звыш 500 мільёнаў зл. У верасні г.г. БСМ мела амаль 8 тысяч 500 членаў, сярод якіх больш-менш адна палавіна ўжо атрымала кватэры ў спулдзельчых будынках.

Прадбачваецца, што ў 1975 годзе маёмасць спулдзельні павялічыцца да 1 мільярда злотых. Калі б паставіць будынкі БСМ адзін побач другога, склалі б яны горад у горадзе.

Запатрабаванне на спулдзельчыя кватэры ўсё павялічваецца. Для цяперашніх кандыдатаў у члены Беластоцкая кватэрная спулдзельня можа абяцаць кватэры толькі ў 1977 годзе, раней няма шанцаў.

(вр)

### ПРА МІЛЕЙЧЫЦЫ І ЧЫСЦІНЮ

Ужо трэці раз Мілейчыцы прымаюць удзел у конкурсе на найлепш загаспадараную і найбольш чыстую сялібу грамадскіх улад. Конкурс арганізуе Ваяводскі камітэт фронта адзінства народа. У мінулым годзе Мілейчыцы заваявалі трэцяе месца ў Сямяціцкім павеце. Першае месца камісія прызнала Дзятковіцам, а другое — Цеханоўцу. З праведзенай у апошні час ацэнкі стану загаспадарання і чысціні вынікае, што Мілейчыцы наўрад ці адваююць ужо нават трэцяе месца ў павеце.

(вр)




Калі зайшла размова аб неабходнасці прыняцця сур'ёзных мер для забеспячэння бяспекі Вялікай тройкі, прадстаўнік амерыканскай сакрэтнай службы Майкл Рэйлі заявіў, што таксама падзяляе апасенні савецкай разведкі. Ён, у сваю чаргу, адзначыў, што, нягледзячы на ўсе перасцярогі і прынятыя ўжо меры, сярод тысяч бежанцаў, якія нахлынулі ў Тэгеран з Еўропы, засталіся яшчэ дзесяткі нацысцкіх агентаў.

Рузвельт спачатку адхіліў прапанову спыніцца ў савецкім пасольстве. Ён растлумачыў, што адчуваў бы сябе больш незалежным, не будучы нічыім госцем. Акрамя таго, ён ужо раней адхіліў прапанову, атрыманую ад англічан, і цяпер мог пакрыўдзіць іх, прыняўшы прапанову рускіх. Але, прыняўшы пад увагу меркаванні бяспекі ўсіх удзельнікаў сустрэчы, ён згадзіўся. Гэту акалічнасць амерыканцы асабліва падкрэслівалі. Яны, у прыватнасці, спасылаліся на пасла ЗША ў Маскве Аверэла Гарымана, які акрамя ўсяго іншага, указаў Рузвельту на тое, што, калі б што здарылася з англійскімі ці савецкімі прадстаўнікамі на дарозе ў амерыканскую місію, прэзідэнт сам лічыў бы сябе адказным, калі б адхіліў прапанову рускіх.

Прыняўшы прапанову пасяліцца ў савецкім пасольстве, прэзідэнт ЗША, мяркуючы па ўсім, пасля не шкадаваў аб гэтым. Вялікай зручнасцю для Рузвельта, якому з-за хваробы цяжка было рухацца, было тое, што яго пакоі выходзілі прама ў вялікую залу, дзе адбываліся пленарныя пасяджэнні канферэнцыі.

У апартаментах Рузвельта амерыканцы маглі распараджацца па свайму ўгледжанню. Гатавалі прэзідэнту, як звычайна, яго асабістыя повары і афіцыянты-філіпінцы, якія знаходзіліся на службе ў ваенна-марскім флоце ЗША, але заўсёды знаходзіліся пры Белым доме і прыбылі ў Тэгеран разам з Рузвельтам.

Астатнія члены амерыканскай дэлегацыі, а таксама тэхнічны персанал, жылі ў місіі ЗША і кожны дзень прыязджалі адтуль на пасяджэнні.

Савецкая дэлегацыя ў саставе І. В. Сталіна, В. М. Молатава, К. Я. Варашылава размясцілася непадалёку ад галоўнага будынка ў невялічкім двухпавярховым асабняку — кватэры савецкага пасла ў Іране.

Для тэхнічнага персаналу савецкай дэлегацыі было адведзена памяшканне, дзе ў мінулым знаходзіўся гарэм персідскага вяльможы. Аднапавярховы дом, у выглядзе выцягнутага прамавугольніка, акаймавала тэраса з маўрытанскімі калонамі. Кожны са шматлікіх пакояў меў двое дзвярэй: на тэрасу і ва ўнутраны доўгі калідор. Перад будынкам знаходзіўся квадратны басейн.

Але падрабязнасці, звязаныя з гісторыяй гэтага памяшкання, я даведаўся пазней. Не было часу пазнаёміцца і з экзатычным паркам: мяне папярэдзілі, што ў дзве гадзіны дня адбудуцца перагаворы Сталіна з Рузвельтам, дзе я павінен быў перакладаць. Праўда, мне пашчасціла хуценька паабедаць у абсталяванай у суседнім флігелі сталовай для тэхнічнага персаналу.

Праз дзесяць мінут я, схапіўшы блакнот, пабег у галоўны будынак.

### ДЫЯЛОГ ДВУХ ЛІДЭРАЎ

Мне ўжо не раз даводзілася выконваць ролю перакладчыка І. В. Сталіна. У Маскве я прысутнічаў на многіх яго сустрэчах з Чэрчылем, дзяржаўным сакратаром ЗША Кордэлам Хэлам, Антані Ідэнам, тагачасным міністрам за-

(Працяг на стар. 6)

Пачатак на стар. 1

## ПАЗНАЦЬ САМІХ СЯБЕ

тыў на Гайнаўшчыне будзе?

Б. І.: Я то веру. Але хачу, каб усе зразумелі нашую прафсаюзную ініцыятыву.

В. Л.: Многа залежыць ад гайнаўскіх улад.

Б. І.: Я з прызнаннем падкрэсліваю тут ролю гайнаўскіх прадпрыемстваў і гайнаўскіх улад. І веру, што выйдзе нам гэтая справа. Там ужо многа запалу ў людзей. А дапамогу ад ВКЗЗ яны заўсёды атрымаюць.

В. Л.: Праца калектыву, аб якім мы гаворым, гэта праца асветная, культурная і навуковая — патрэбен жа рэпертуар?

Б. І.: Што ўжо можа нас цешыць? Тое, што праблематыкай апрацоўкі фальклора занялося Галоўнае праўленне Беларускага таварыства. Нам не хапала апрацаванага беластоцкага фальклору. Вельмі добра будзе, калі апрацоўкі, узятыя на варштат Беларускім таварыствам, давядуцца да канца і будуць дадзены ў карыстанне ўсім калектывам, як супольны рэпертуар. Во нашым супольным творам павінен быць гайнаўскі фальклорны калектыў. Паўтараю, усім намаганням у тым напрамку даем апеку і дапамогу. Не будзем арганізоўваць біг-бітовых груп, але ахвотна прымем пад свае крылы ўсе групы, якія возьмуцца за працу з беластоцкім фальклорам.

В. Л.: А розныя па форме групы прымеце?

Б. І.: Як найбольш! І для прыкладу, сам вельмі люблю мандаліну. Выдаецца мне нават, што ўсходнія мелодыі для гэтага інструменту добра падыходзяць. Або калектыў акардэонаў — улюбёны на Беласточчыне музычны інструмент. Таксама народныя капелы, дзе месца павінны знайсці старынныя, забытыя часта народныя інструменты, як напрыклад... які назавеце папулярны стары беларускі інструмент?

В. Л.: Жалейка, якая мае родную сястру-блізнячку ў польскай фуярцы. Абы дуда — па польску так сама...

Б. І.: У дэкламатарскія, эстрадныя, драматычныя калектывы няхай таксама ўвойдзе шырокім руслам рэгіянальная народная праблематыка. У рамах культурнага фестывалю прафсаюзаў чакаем новых вынікаў. Напраўда, што мы на Беласточчыне не можам лічыцца ў краіне. Трэба толькі падняць і паказаць нашае багацце і зямлю нашу.

*Размову вяла* ВЕРА ЛЕЎЧУК

Пачатак на стар. 1

## У КНЫШЭВІЧАХ

маладым разам рыхтаваць для вёскі выступленні на ўрачыстасці. Усім гэта вельмі падабалася.

Згадзіліся на тым, што варта і сёлета пачаць ужо нейкую арганізаваную працу. Сезон культурна-асветнай працы ўжо пачаўся. Работы ў полі амаль закончаны. У іншых вёсках моладзь ужо пачала рабіць выезды з канцэртамі нават у суседнія вёскі. Час узяцца за канкрэтную справу.

Згаджаюся з кнышэвічаўцамі, што клуб ім вельмі патрэбны, і спадзяюся, што ў Кнышэвічах будзе свой клуб, асабліва тады, калі моладзь там пачне праводзіць свой вольны час больш арганізавана і на карысць усяе вёскі.

Кнышэвічаўцы вельмі любяць глядзець кінафільмы. Кожны чацвер у іх вёску прыязджае кінаперасоўка з Шудзялава. Нягледзячы на гэта, людзі вельмі прасілі, каб да іх часцей прыязджала кінаперасоўка з Галоўнага праўлення нашага таварыства. Любяць тут людзі савецкія кінафільмы.

Вечар канчаўся. Моладзь, разгарачаная спрэчкамі, працягвала дыскутаваць аб сваіх справах. А старэйшыя людзі мелі яшчэ і іншыя балючыя справы, якімі хацелі падзяліцца з журналістам. Седзячы ў цёплым кутку ля печы, скардзіліся:

— Вось рабілі ў нас меліярацыю. Добрая рэч. Патрэбная. Мы думалі, нарэшце можна будзе даехаць да сенажацяў без клопатаў. Аж тут не. Два гады ад пачатку меліярацыі не было моста праз Сакалду. А сёлета як зрабілі, дык у найгоршым месцы. Да пераезду каня трэба цягнуць па такім балоце, што ледзь выбрацца можна. А ў дождж, не кажучы ўжо аб восеньскіх даждах, пераезд заліты вадой і ехаць па ім ніхто не адважваецца. Каму ж патрэбны такі пераезд?

Цяжкое пытанне. Не магу адказаць, каму патрэбны быў пераезд, якім нельга карыстацца. Не ведаю таксама, хто яго там запланаваў і якія грошы змарнаваў на яго будову, але думаю, што калі ўжо столькі сродкаў выдадзена на меліярацыю, дык трэба давесці справу да таго, каб людзі мелі ад яе як найбольшую карысць. Гэты ж самы мост, пабудаваны на 100 метраў далей, на вышэйшым месцы, быў бы добрым заканчэннем меліярацыі сенажацяў. А так? Непатрэбныя клопаты для гаспадароў навакольных вёсак і незадаваленне.

Спадзяюся, што і на гэты пераезд знойдзецца нейкая рада. Павінна знайсціся.

*Я. Чэрнякевіч*

УВАГА, НАСТАЎНІКІ!

## ВАШЫ ДАПАМОЖНІКІ

У 1971 годзе, Мінскае выдавецтва «Народная асвета» выпусціць у свет наступныя кнігі:

Жук Э. М. *Зборнік дыктантаў па беларускай мове ў І—ІІІ класах.* Новае выданне. Цана 22 кап. Зборнік складзены з улікам новых праграмных патрабаванняў.

Андрэенка У. К., Яўневіч М. С. *Метадычныя ўказанні да падручніка «Беларуская мова»*, ч. І, для V—VI кл. Новае выданне. Цана 19 кап. У кнізе настаўнік знойдзе метадычныя парады, якія дапамогуць яму зрабіць урокі беларускай мовы больш цікавымі і змястоўнымі. Акрамя таго, у кнізе даецца дыдактычны матэрыял, які можна выкарыстаць для развіцця мовы вучняў.

Вярбіла У. М., Гарачун Е. Г. *Метадычныя ўказанні да падручніка «Родная літаратура» для VI кл.* На беларускай мове. Новае выданне. Цана 19 кап. У кнізе аналізуюцца ідэйны змест і мастацкія асаблівасці праграмных твораў, змешчаны неабходны фактычны матэрыял для правядзення ўрокаў і гутарак, а таксама для пазакласнай работы. Аўтары даюць канкрэтныя метадычныя парады і рэкамендацыі па вывучэнні беларускай літаратуры ў VI класе.

Клачко А. М., Мітраховіч С. А. *Метадычныя ўказанні да падручніка «Родная літаратура» для V кл.* На беларускай мове. Новае выданне. Цана 19 кап. У дапаможніку аналізуюцца ідэйны змест і мастацкія асаблівасці праграмных твораў, ёсць прыкладныя распрацоўкі тэм і неабходны фактычны матэрыял для ўрокаў, гутарак і пазакласнай работы. Распрацаваны тэарэтычны матэрыял. Аўтары даюць метадычныя парады па вывучэнні беларускай літаратуры ў V-ым класе.

Лазарук М. А. *Тэорыя літаратуры.* На беларускай мове. ІІ-ое выданне, дапоўненае. Цана 19 кап. У кнізе разглядаюцца пытанні тэорыі літаратуры. На матэрыяле твораў беларускай літаратуры асвятляюцца такія пытанні, як сувязь літаратуры з жыццём, асаблівасці мастацкага вобразу, тэма, ідэя, сюжэт, кампазіцыя і асаблівасці мовы, асновы вершаскладання, паняцце пра жанры, стылі, напрамкі, метады мастацкай літаратуры.

Кобызева К. А. і інш. *Арфаграфічны слоўнік.* На беларускай мове. Другое выданне. Цана 13 кап. Прапануецца вучням пачатковай школы.

Лобан М. П., Суднік М. Р. *Арфаграфічны слоўнік.* На беларускай мове. Трэцяе выданне, перапрацаванае і дапоўненае. Цана 41 кап. Прапануецца вучням VI—X класаў і настаўнікам.

Шуўчык Н. І. *Карткі для практыкаванняў па беларускай мове ў IV — VI кл.* Другое выданне, перапрацаванае і дапоўненае. Цана 24 кап. Карткі складзены ў адпаведнасці з праграмай па беларускай мове для IV і VI кл. У іх даюцца разнастайныя практыкаванні для назірання пры вывучэнні новых правіл граматыкі, для трэніроўкі і праверкі ведаў вучняў.

*Азбука ў карцінках.* На беларускай мове. Новае выданне. Цана 60 кап.

Шуўчык Н. І. *Табліцы па фанетыцы і марфалогіі*, IV—VI кл. На беларускай мове. Другое выданне. Цана 4 р. 68 кап.

*Карціны па навучанні грамаце.* На беларускай мове. Новае выданне. Цана 5 р. 80 кап.

Міцкевіч Д. К. і інш. *Альбом пра жыццё і творчасць Я. Коласа.* На беларускай мове. Новае выданне. Цана 2 р. 60 кап.




У лістападаўскім нумары беластоцкага месячніка «Кантрасты» перш за ўсё хочам звярнуць увагу нашых чытачоў на артыкул Зыгмунта Каштылы аб дзейнасці выдатнага рэвалюцыянера В. Врублеўскага.

Сярод іншых матэрыялаў гэтага — яго 27-га па чарзе — нумара «Кантрастаў» варта прачытаць артыкул пра дваццацігадовую дзейнасць прадпрыемства «Рух» і артыкул Крысціны Маршалак аб дзейнасці беластоцкіх тэатраў, сімфанічнага аркестра і беластоцкай эстрады.

Веслава Вяжкоўская праводзіць ацэнку гайнаўскага і белавежскага мастацкіх пленэраў. Гэтая ацэнка выпадае вельмі станоўча.

У літаратурнай частцы «Кантрастаў» знойдзем апавяданне Т. Гіцгера і вершы маладых беластоцкіх паэтаў. (вр)

ЗАПІСКІ З ПАДАРОЖЖА




У сонечную прыгожую нядзелю апынуўся я ў балгарскім горадзе Варне. На галоўнай вуліцы Варны шматнацыянальны, шматмоўны натоўп. Натоўп не змяшчаецца на тратуарах, выліваецца на вуліцу, залівае ўсю яе шырыню, і ўсё выглядае так, як на аграмадным фэсце або на незвычайным нейкім кірмашы.

На галоўнай плошчы ў Варне велізарны фантан, а насупраць вялікі будынак — сядзіба гарадской рады нарадовай. Перад гмахам аўтамашыны і натоўп людзей. Але натоўп не шматкалерны, не шматмоўны і не шматнацыянальны. Натоўп балгараў. У нядзелю ў гмаху рады ўраднік дае маладажонам шлюбы.

Пайшоў я, каб глянуць бліжэй на гэты абрад. Трэба адразу сказаць, што ў Балгарыі цывільнаму шлюбу прыдаюць значна большае значэнне, чым сцці ў нас, шлюбы гэтыя багацейшыя і цікавейшыя тут ад шлюбаў царкоўных.

Знаходзімся перад гмахам гарадской рады нарадовай у Варне. Пад гмах што нейкі час заязджаюць аўтамашыны. Прыбраныя яны па-вясельнаму: спераду кожнай аўтамашыны вісіць белы ручнік, на насу аўтамашыны, у якой едуць маладажоны, — вялікая, прыбраная ў вэлюм лялька.

Заходжу ў гмах. Вясельнікі, як амаль ва ўсім свеце, прыбраныя ўрачыста: у чорных касцюмах з гальштукамі, з прышпіленымі да касцюмаў кветкамі і банцікамі, урачыста прыбраныя дзяўчаты. Адкрываюцца дзверы, можна ўваходзіць у залу шлюбаў. Уваходзяць усе вясельнікі. Афіцыйная частка шлюбу працягваецца нядоўга. Над галавой урадніка прыгожа напісаны тэкст аб тым, што фундаментам сям'і з'яўляецца каханне паміж мужам і жонкай, узаемная пашана і супольная праца. Падпісанне акту і некалькі слоў урадніка, які таксама гаворыць аб каханні, ды складае пажаданні маладажонам. Потым усе ідуць у наступную залу, дзе прысутных частуюць чаркай ды шакаладам, потым яшчэ ў наступную, дзе фатограф робіць памятныя здымкі. Потым ізноў усе выходзяць на гарадскую плошчу паміж фантанам і гмахам гарадской рады.

Тут чакае іх аркестр. Народны аркестр, у якім асноўны інструмент — народная балгарская кобза. Кабзар грае хора — народную балгарскую мелодыю, якая тут чуваць на кожным кроку. У мелодыі матывы блізкія, славянскія пераплятаюцца з матывамі бліжнеўсходнімі, турэцкімі. Радасць перамешваецца з нотай суму.

Усе вясельнікі становяцца ў круг. У сярэдзіне круга становяцца бацькі маладых, пачынаючы спаборніцтва ў танцаванні народнага хора. Калі скончылі, аркестр пачаў іграць ізноў, і ў танец пайшоў увесь вялікі круг вясельнікаў. Танец спачатку павольны, аднастайны, пераходзіць потым у шпаркі, жывы рытм. Закруцілася ўсё на гарадской плошчы, заварушыўся натоўп назіральнікаў і прахожых, вясельнікі ў падскоках і прысядах, б'ючы ў далоні і пакрыкваючы, танцуюць хора. Паявіліся аднекуль дзве вялізныя бутэлькі з гарэлкай, вясельнікі ў танцы п'юць гарэлку, падаюць сабе бутэлькі з рук у рукі, танец становіцца яшчэ больш жвавым і энергічным.

Канец. Моўкне кобза, заціхае аркестр. Вясельнікі сядаюць у аўтама-

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПАРТЫЙНЫ СХОД

Нядаўна ў Ялоўцы адбыўся партыйны сход. Члены партыі ў дыскусіі звярнулі ўвагу на шмат недахопаў у працы мясцовай ГРН, якая не заўсёды належна дбае аб вулічным асвятленні, не думае, каб прывесці ў парадак пляц, дзе раней быў рынак, не пільнуе чысціні і парадку на аўтобусным прыпынку ПКС.

Я. Ц.

### УЗНАГАРОДЫ ЗА ПРАЦУ

За удзел у перапісных працах ГУС (Główny Urząd Statystyczny) прадбачыў для рахункаводаў эквівалент у выглядзе грашовых узнагарод, велічыня якіх будзе залежаць ад колькасці і якасці працы. У рамах гэтых узнагарод перапісны рахункавод атрымае па 80 гр. за кожную спісаную асобу, 2,50 зл за кожную спісаную кватэру, 1 зл ад кожнай гаспадаркі і ад 40 да 70 зл за зроблены канцовы падлік. Дадаткова ўзнагароды прадбачаны для настаўнікаў, якія ў свабодным часе ад працы будуць выконваць функцыі рахункаводаў.

Кандыдатаў на рахункаводаў прымаюць усе грамадскія і гарадскія рады нарадовыя, а ў павеце — павятовыя статыстычныя інспектары.

### ЗАКАНЧВАЕЦЦА СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

Мінае чарговая кадэнцыя дзейнасці ўлад пярвічных партыйных арганізацый і грамадскіх камітэтаў партыі. У многіх мясцовасцях адбыліся, а ў многіх яшчэ і цяпер адбываюцца справаздачна - выбарчыя сходы, на якіх падсумоўваецца выкананне мінулай праграмы ПОП, ролі ПОП у сваім асяроддзі, прымаецца новая праграма далейшай дзейнасці і выбіраюцца новыя партыйныя ўлады.

Партыйныя арганізацыі на вёсках падчас справаздачна-выбарчай кампаніі найбольш прысвячаюць увагі сельскагаспадарчай вытворчасці і павышэнню ўзроўню дзейнасці ПОП у галіне палітычна-выхаваўчай.

### НІШЧАЦЬ ПАСЕВЫ

У многіх мясцовасцях даволі вялікая ўжо рунь нядаўна пасеянага жыта. У ваколіцы Трысцянога на Сакольшчыне на жытняй руні можна ўбачыць кароў і авечак, якія нагамі дзіравяць пасевы зялёнага жыта. Такое лёгкадумнае спасванне руні напэўна прынясе шмат шкоды пасевам, таму што пакуль зямля не замерзне, ні ў якім выпадку нельга пускаць жывёлы, каб таптала рунь.

(см)

## ДАПАМАЖЫ Ў ПЕРАПІСЕ

Падрыхтоўка да V-га ўсеагульнага нацыянальнага перапісу ўвайшла ў канцовую фазу. Уся наша краіна ўжо падзелена на статыстычныя раёны і перапісныя акругі. У Беластоцкім ваяводстве ўтворана 7380 перапісных акруг. Падчас перапісу, які будзе адбывацца між 8—15 снежня, у кожнай акрузе павінен быць адзін рахункавод, а ў большых, асабліва ў гарадскіх акругах, па два і больш рахункаводаў. Каб добра правесці перапіс у Беластоцкім ваяводстве, неабходна каб было каля 10 тысяч перашколеных рахункаводаў.

Ад 15-га кастрычніка г.г. ва ўсёй краіне пачалася акцыя вербавання перапісных рахункаводаў. Можа ім стаць кожны, хто: 1) закончыў 16 год, 2) мае кваліфікацыі, якія даюць магчымасць дакладна пазнаёміцца з заданнямі і інструкцыямі, 3) мае добрую фізічную форму, 4) авалодаў умеласцю свабоднага выказвання і лёгкасцю ў навязванні з людзьмі кантактаў.

Ад кандыдатаў на перапісных рахункаводаў патрабуецца таксама дыскрэтнасць таму, што ўсё тое, аб чым даведаюцца яны, з'яўляецца статыстычнай таямніцай.

Перапісныя органы лічаць на дапамогу ў гэтай справе з боку студэнтаў, школьнай моладзі, хатніх гаспадынь, пенсіянераў і рэнцістаў, на ўсіх тых, якія не маюць замнога прафесіянальных абавязкаў.

З удзелу ў перапісных працах будуць выключаны студэнты першага курса і тыя, якія маюць залегласці ў здаванні экзаменаў. Вучні сярэдніх школ, якім споўнілася 16 год, могуць ўдзельнічаць у акцыі «Перапіс». Не могуць прымаць удзелу ў гэтай акцыі вучні першых і апошніх класаў сярэдніх і засадніцых школ, і тыя вучні, якія вельмі дрэнна вучацца.

Усе перапісныя рахункаводы ў лістападзе пройдуць пяцідзённы курс, на якім дакладна пазнаёмяцца са сваімі абавязкамі і заданнямі.




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне ўжо больш 20 год. Ад 18-ці год я працую. Цяпер даязджаю з вёскі да павятовага горада. Але зарабляю нядрэнна, і ўвогуле ўсё добра ўкладаецца, апрача адной справы. З Кацяй мы знаёмы з дзіцячых год (мы суседзі). Нашае сяброўства перарадзілася ў каханне. Ужо год часу мы не можам жыць адно без другога. Хацелі б пажаніцца, але Каця вучыцца яшчэ ў сярэдняй школе, бацькі таксама не дазваляюць, гавораць, што мы яшчэ замаладыя і што не падрыхтаваны яшчэ да самастойнага жыцця. Мы і пастанавілі чакаць, пакуль Каця кончыць школу. Але вось што здарылася. Я працую рабочым, але без кваліфікацый. Паколькі мяне цэняць на рабоце, мяне высылаюць на гадавы курс, каб навучыць мяне прафесіі. Я вельмі ахвотна прыняў гэта, але баюся, што між мною і Кацяй, калі я паеду далёка ад дому, можа ўсё папсавацца. Я ж тады вельмі рэдка прыеду дамоў, а Каця маладая дзяўчына, хто ведае, ці вытрымае сядзець у хаце і не будзе хадзіць на забавы. Я мушу хутка прыняць рашэнне ў гэтай справе, а сам не ведаю, што лепш выбраць, таму іменна прашу цябе, Сэрцайка, хуткай парады.

*Мікола з Бельшычны*

Паважаны Мікола! Думаю, што тут выбіраць нельга. Абавязкова трэба табе ехаць на гэты курс, каб атрымаць прафесію, тым больш што ты ўжо цяпер думаеш аб сям'і. Ды бацькі тваё і Каціны маюць вялікую рацыю, што вам яшчэ зарана жаніцца, бо вы ж сапраўды не падрыхтаваны да заснавання ўласнай сям'і. Таму найлепш будзе, калі ты не адмовішся і ад выезду і ад Каці. Напэўна пачакае, тым больш калі мае ў адносінах да цябе сапраўдныя пачуцці. Выезд твой пераканае цябе і Кацю ў сталасці вашага кахання. Таму думаю, што твой выезд — гэта падвойная карысць. А тое, што Каця пойдзе на забаву, да сяброўак і сяброў, не сведчыць аб нічым дрэнным. Яна ж маладая дзяўчына, і нельга жадаць ад яе, каб сядзела ў хаце і выглядала свайго «Яська». Тым больш, калі цябе не будзе, павінна, калі час дазволіць (бо яна ж вучыцца), прабываць з сяброўкамі. Тады і час хутчэй праляціць — як кажуць. Ты атрымаеш прафесію. Каця таксама. І калі акажацца, што вашыя пачуцці сапраўдныя і сталыя, напэўна нічога больш не стане вам на перашкодзе да супольнага шчаслівага жыцця.

*Сэрцайка*

## ЭЛІЗА КШЭЎСКАЯ



Эліза Кшэўская пачала настаўніцкую працу ў 1917 годзе ў Савецкім Саюзе. У 1950 годзе пераехала ў Польшчу і пачала працаваць у агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Хутка яна здабыла тут вялікі аўтарытэт сярод настаўнікаў і школьнікаў. Любіла яна працаваць у галіне аматарскага руху і аж да 1969 года ў ліцэі кіравала эстраднай групай. 1-га верасня педагагічная рада ліцэя праводзіла яе на заслужаную пенсію. Але яна так прывыкла да школы, што без яе не можа жыць. Таму для яе стварылі магчымасць далей працаваць на паўштаце ў школе і выкладаць нямецкую мову.

*Тэкст і фота Віктар Бура*
*Гайнаўка*

Праз некалькі мінут дзверы расчыніліся, і слуга-філіпінец укаціў каляску, у якой, цяжка абапіраючыся на падлакотнікі, сядзеў з усмешкай Рузвельт.

— Хэло, маршал Сталін, — бадзёра вымавіў ён, працягваючы руку. — Я, здаецца, крыху спазніўся, прашу прабачэння.

— Не, вы якраз своечасова, — запярэчыў Сталін. — Гэта я прыйшоў раней. Мой абавязак гаспадара да гэтага абавязвае. Усё-такі вы ў нас у гасцях, можна сказаць, на савецкай тэрыторыі.

— Я пратэстую, — рассмяяўся Рузвельт, — мы ж цвёрда дамовіліся сустрэцца на нейтральнай тэрыторыі. Да таго ж, тут мая рэзідэнцыя. Гэта вы мой госць.

— Не будзем спрачацца, лепш скажыце, ці добра вы тут уладкаваліся? Можа што патрэбна?

— Не, дзякую, усё ў парадку. Я адчуваю сябе тут, як дома.

— Значыцца, вам тут падабаецца?

— Вельмі вам удзячны за тое, што вы прадаставілі мне гэты дом.

— Прашу вас бліжэй да стала, — запрасіў Сталін.

Слуга-філіпінец падкаціў каляску ва ўказанае месца, разварнуў яе, зацягнуў тормаз на кола і выйшаў з пакоя. Сталін прапанаваў Рузвельту папяросу, але той, падзякаваўшы, адмовіўся, дастаў свой партсігар, уставіў доўгімі тонкімі пальцамі цыгарэту ў прыгожы муштук і закурыў.

— Прывык да сваіх, — сказаў Рузвельт, усміхнуўшыся, і, нібы просячы прабачэння, пацінуў плячыма. — А дзе ж ваша славутая люлька, маршал Сталін?

— Урачы раяць мне менш карыстацца люлькай. Я ўсё ж яе захапіў сюды і, каб зрабіць вам прыемнае, вазьму яе з сабой у наступны раз.

— Трэба слухацца ўрачоў, — сур'ёзна сказаў Рузвельт, — мне таксама прыходзіцца гэта рабіць...

— У вас ёсць прапановы наконт парадку дня сённяшняй гутаркі? — перайшоў Сталін на дзелавы тон.

— Не думаю, што нам трэба цяпер дакладна вызначаць кола пытанняў, якія мы маглі б абмеркаваць. Проста можна было абмежавацца агульным абменам думак адносна цяперашняга становішча і перспектыў на будучае. Мне было б таксама цікава атрымаць ад вас інфармацыю аб становішчы на савецка-германскім фронце.

— Гатовы прыняць вашу прапанову, — сказаў Сталін. Ён узяў пачак «Герцеговіны флор», раскрыў яго, доўга выбіраў папяросу, як быццам яны чымсьці адрозніваліся адна ад адной, закурыў. Потым, нетаропка вымаўляючы словы, прапанаваў:

— Што датычыць становішча ў нас на фронце, то асноўнае, бадай, у тым, што ў апошні час нашы войскі пакінулі Жытомір — важны чыгуначны вузел.

— А якое надвор'е на фронце? — пацікавіўся Рузвельт.

— Надвор'е спрыяльнае толькі на Украіне, а на астатніх участках фронту — гразь і глеба яшчэ не замерзла.

— Я хацеў бы адцягнуць з савецка-германскага фронту 30—40 дывізій, — спачувальна сказаў Рузвельт.

— Калі гэта магчыма зрабіць, то было б добра.

— Гэта адно з пытанняў, па якім я маю намер даць свае тлумачэнні на працягу бліжэйшых дзён тут жа, у Тэгеране. Складанасць у тым, што перад амерыканцамі стаіць задача забеспячэння войск колькасцю: два мільёны чалавек, што знаходзяцца на адлегласці трох тысяч міль ад амерыканскага кантынента.

— Тут патрэбен добры транспарт, і я ўсё гэта добра разумею.

— Думаю, мы гэту праблему вырашым, бо судны ў Злучаных Штатах будуюцца здавальняючымі тэмпамі...

Далей гаворка зайшла аб будучым Францыі. Рузвельт заявіў, што дэ Голь яму не падабаецца, тады як генерала Жыро ён лічыць вельмі сімпатычным чалавекам і добрым генералам. Рузвельт паведаміў, што амерыканцы ўзбройваюць 11 французскіх дывізій, і закрануў у гэтай сувязі становішча ў Францыі і настроі розных слаёў насельніцтва гэтай краіны.

— Французы, — зазначыў Рузвельт, — добры народ, але ім патрэбны абсалютна новыя кіраўнікі, не старэйшыя 40 гадоў, якія не займалі ніякіх пасад у ранейшым французскім урадзе.

Сталін выказаў думку, што на такія змяненні спатрэбіцца шмат часу. Што ж датычыць некаторых цяперашніх кіруючых слаёў у Францыі, працягваў ён, то яны відаць, думаюць, што саюзнікі паднясуць ім Францыю ў гатовым выглядзе, і не хочуць ваяваць на баку саюзнікаў, а лічаць за лепшае супрацоўніцтва з немцамі. А ў французскага народа не пытаюцца.

Рузвельт зазначыў, што, на думку Чэрчыля, Францыя цалкам адродзіцца і неўзабаве стане вялікай дзяржавай.

— Але я не падзяляю яго думкі, — працягваў Рузвельт. — Думаю, што пройдзе шмат гадоў, перш чым гэта здарыцца. Французам давядзецца шмат папрацаваць, перш чым Францыя сапраўды стане вялікай дзяржавай.

*(Працяг будзе)*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Trzynastego nocą" (bułg.), 24—25. „Kryptonim Nektar" (polski) 26—27. „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 28—29.

**ДУБІНЫ**

„Dziewczyna z walizką" (radz.), „Francja naprzód" (franc.), 28—29.

**НАРАЎКА**

„Czekam w Monte Carlo" (polski), „Czarny wiatr" (meksykański), 25—29.

**НАРВА**

„Dziewczyna na rozdrożu" (bułgarski), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 25—29.

**ЧЫЖЫ**

„Marynarz Czyżyk" (radz.). „Mściciel z przeklętej góry" (jugosłowiański), 25—29.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Znicz olimpijski (polski), „2 mamy i 2 ojców" (jugosł.), 25—29.

**АРЭШКАВА**

„Kobieta wąż" (ang.), „Tajemniczy mnich" (radz.), 28—29.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**ОРЛЯ**

„Ruchome piaski" (polski), „Jezioro starej sowy" (NRD), 25—29.

**РАЙСК**

„Każdemu swoje" (włoski), „Paragon gola" (polski), 25—29.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Hatari" (USA), 24—25. „I znów z tobą" (węgierski), 26—27. „Album polski" (polski), 28—29.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Dialog" (węgierski), 24—25. „Che / Opowieść o Geuvarze" (włoski), 26—27. „Bumerang" (polski), 28—29.

**ШУДЗЯЛАВА**

„Czworokąt śmierci" (czeski), „Sąsiedzi" (polski), 25—29.

**ЯНАЎ**

„Daleko od słońca (jugosł.), 25—29.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Falstaff" (hiszpański), 24—25. „Banda Asa Kier" (radz.), 26—27. „Album polski (polski), 28—29.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Tak się zaczęło" (NRD), 24—25. „Dziewczyna z walizką" (włoski), 26—27. „Dzień oczyszczenia" (polski), 28—29.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Powrót rewolwerowca" (USA). „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 25—29.

**НОВЫ ДВОР**

„Tylko jedno życie" (polski), „Więzy" (węgierski), 28—29.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7107 W-4

